Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана 15 граш.

# СЯЛЯНСКІ ГОЛАС

Орган Радыкальнай Сялянскай Партыі Беларускіх Зямель.

**Галоўны Рэдактар і Выдавец: пасол УЛАДЫМЕР ШАКУН.**

**Пранумэрата каштуе:**

| | |
|---|---|
| Месячна | — 50 гр. |
| на 3 месяцы | 1 зл. — |
| „ 6 „ | 1 „ 75 |
| у год | 3 „ — |

**Выходзіць два разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:

**Вільня, Скопувка № 7, кв. 8.**

Wilno, Skopówka 7, m. 8.

**№ 1.** Вільня, Серада 22 чэрвеня 1927 г. **Год I.**

## СЯЛЯНЕ!

Даём Вам нашую новую Сялянскую газэту.

Мэтай яе будзе—разбуджваць сялянскія масы з векавога сну да арганізаваньня сялянскай сілы, да барацьбы за лепшую будучыну працоўных масаў на вёсцы.

Завём Вас да працы, да шырэньня сьвядомасьці сярод сваіх суседзяў ды знаёмых, а адзінай дарогай да гэтага ёсьць чытаньне газэты. Газэта—то найвялікшая нашая зброя. Ворагі працуючага народу добра гэта разумеюць, дзеля гэтага-ж кідаюць на вёску газэту дарма, сеючы гэткім чынам труцізну для нясьведамых.

Помніце аб гэтым! Помніце, што багачы ніколі ня былі дый ня будуць прыяцелямі Вашымі. Дарма нічога і ніколі не дастанем, дык вось—проч з **дармоўшчынай!**

У нашай газэце будзем паказваць Вам цяжкую дарогу барацьбы працуючага народу з вызысківачамі. Будзем парушаць усялякія, датыкаючыя Вас, справы палітычныя і гаспадарчыя. Бараніць будзем усіх сялян нашых зямель.

Рэакцыя ды партыі ўгадовыя цешацца, думаючы, што радыкальны рух сялянскі на нашых землях рэпрэсіямі ўраду сёньня разьбіты, ды што яны ізноў будуць жыраваць на несьвядомасьці нашых сялян. Пакажам, што яны мыляюцца!

Зазываем Вас да грамаднага лучэньня ў рады нашае Радыкальнае Сялянскае Партыі Беларускіх зямель, пры нашай сялянскай газэце.

**Да чыну! Да працы!**

Падтрымвайце сваю газэту, зьеднывайце падпішчыкаў. Часова газэта будзе выходзіць раз на два тыдні, але ў меру павялічэньня чытачоў, будзем выдаваць штотыдня.

Гэты № пасылаем Вам, як аказовы, дарма. Зрабілі мы гэты высілак, каб навязаць з Вамі контакт, але **далей дарма газэты пасылаць ня можам,** бо ня маем грошай. Дык вось утрыманьне газэты Вашай будзе цалком залежаць ад Вас.

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі: **Wilno, ul. Skopówka, 7, m. 8.** На гэты адрэс прысылаць грош на газэту і ўсялякую корэспондэнцыю да газэты.

Пішэце да газэты.

**РЭДАКЦЫЯ.**



# НОВЫЯ ДАРОГІ.

Палітычнае жыцьцё ў Польшчы штораз то мацней зыходзіць на новыя лініі. На першы плян высоўваецца пілсудчына, апёртая на збройнай сіле. Пілсудчыкі імкнуцца збудаваць палітычны кірунак цэнтрова-угадовага характару. Дык з гэтай мэтаю ўдараюць у правіцу, стараючыся прабіць у ёй дзіру і часьць арганізацыі пацягнуць у свой бок. Таксама скіроўваюць вялікую натугу на поўнае зьнішчэньне лявіцы, асабліва крайняе.

Робяць гэта ўсё, бо ведаюць, што на даўжэйшую мэту ня ўдасца ўтрымаць на штыхох ніякае ўлады. Ці ўдасца вытварыць гэткі кірунак, апёрты на пераканаяньнях грамадзян, як на адзіна моцным фундамэнце,—ў гэтым трэба сумлявацца. А калі-б нават і ўдалося гэтага дапнуць, дык якую карысьць адтрымае стуль працоўная кляса?

Гледзячы на гэткі стан рэчаў, шмат якія людзі пытаюцца, што рабіць далей, куды ісьці, з кім супрацоўнічаць, з кім злучацца, а з кім ходацца? Гэтыя пытаньні тым мацней прабіраюць чалавечыяі масы ў цяперашні мамэнт, калі шмат якія палітычныя арганізацыі захісталіся, сябры іх зьяўляюцца нядзейнымі, апынуліся на бездарожжы. У гэтым хаосе палітычных разуменьняў, у гэты бяссумліўна трудны арыентацыйны мамэнт, трэба перш за ўсё памятаць аб найважнейшай пружыне, якая кіруе жыцьцём, як адзінак, так і ўсяго грамадзянства цэлых народаў.

Гэтаю пружынаю ёсьць сіла.

Сіла рашае аб прабегу выпадкаў, аб усіх бакох жыцьця, аб лёсе чалавецтва, а нават і аб лёсах усяго, што істнуе.

Апрача сілы прыроды, ў цяперашні час сілу складаюць з аднаго боку штыхі, войска, а таксама й паліцыя.

З другога баку капітал і

З трэцяга баку—арганізацыя.

Звычайна ўлада ў кожнай дзяржаве апіраецца на першай і другой сіле найболей і вельмі рэдка на трэцяй сіле, але і то толькі часьцёва.

Коратка кажучы, хто мае ў руках кій і грошы ў кішані, той і загадвае, той судзіць, той і кіруе.

Дужы і багаты заўсёды мае рацыю. Ніколі яшчэ я ня бачыў, каб бедны судзіў багатага, каб галодны рабіў прыгавар над пад'еўшым.

Усе разумеюць, што гэткі стан рэчаў ня ёсьць ані слушны, ані справядлівы. Дык адсюль і прыходзіцца да вываду, што лад, абапёрты на сіле аружжа і капіталу, ёсьць благім ладам, ёсьць страшэннаю галадоўляю і вастрогам людзей бедных, людзей, якія жывуць уласнаю працаю.

Там, дзе кіруе абшарнік, дзе кіруе клер, дзе кіруе паліцыянт і фабрыкант, няма гутаркі аб найменшай справядлівасьці для працоўных масаў.

Аб гэтым сьведчаць мільёны горкіх мінут, перажытых сялянска-рабочым народам пад уладаю абшарніча-фабрыканцкіх супалак.

З гэтага выразна вынікае, што ад сёньняшняга грамадзкага ладу ані гарадзкі работнік, ані тым болей малазямельны і безьзямельны мужык ня можа спадзявацца ніякіх дабрадзействаў. Апрача сталае цяжкое працы на карысьць капіталістых і буржуазіі, нічога болей вясковы народ ня будзе мець. Апрача галотнага жыцьця ў голадзе і холадзе сёньняшні уклад адносін нічога мужыком ня дасьць.

Ці групы абшарніча-капіталістычныя будуць жыраваць на працы мільёнаў людзей, прыкрываючыся плашчыкам правіцоўцаў, ці таксама пілсудчыкаў, ці угадоўцаў, ці гэтак сама нават і крайняе лявіцы,—гэта адзін чорт. Бо само істнаваньне ў сучасных варунках, гэтых людзей вытварае неўзнаграджальныя крыўды масам.

Каб надыйшла зьмена ў жыцьці працоўнае клясы, дык неабходна, каб заможная кляса перастала істнаваць. Гэта значыць, што новы працоўны лад ня можа зьмяшчаць у сваім лоне людзей, якія былі-б выключнымі ўласьнікамі вялікае ўласнасьці, ці то зямельнае, ці то прамысловае, ці яшчэ якое іншае.

У новым жыцьці, якое сягоньня пачынае сярод масаў даваць расткі і якое бяссумліўна прыдзе ўва ўсёй сваёй аказаласьці, у тым жыцьці будзе мець права на істнаваньне толькі той, хто працуе.

Чалавек працы робіцца сымболем жыцьця найбліжэйшых пакаленьняў. Але лад працоўны прыдзе толькі тады, калі сіла аружжа і сіла капіталу уступіць месца трэцяй сіле, сіле здаровай арганізацыі працоўных масаў.

Таму што толькі магутная масавая арганізацыя можа вытварыць сілу, перад каторай усё ўпадзе на каленкі. Бо хто-ж, напрыклад, мог-бы процістаць волі шматмільённае, моцнае сваею еднасьцяй, мужыцкай арганізацыі, калі-б яна патрэбавала незабаўнае зямельнае рэформы без адшкадаваньня і бяз выкупу?

Дык і ходзіць перш за ўсё аб магутнае аб'яднаньне мужыкоў дзеля абароны сваіх клясавых інтарэсаў.

Вось пара слоў адказу тым людзям, каторыя сталі на бездарожжы.

А. БОН
пасол.

# АД ВЕКУ МЫ СПАЛІ і НАС РАЗБУДЗІЛІ....

Гэтымі словамі пачынаецца гімн Беларускага народу. Сьпяваюць яго сёньн і на вёсках беларускіх і моладзь і старыя, сьпяваюць так, як у часе раздзелу Польшчы сьпявалі Палякі: „Z dymem pożarów".

Бо і запраўды — разбудзіўся народ Беларускі.

А разбудзілі яго магутны гром гарматаў у сусьветнай вайне, дый звон разьбіваных кандалоў няволі ў вялікім паходзе расейскае рэвалюцыі, што адваліла камень няволі народаў і Польшчы. Магутны павеў вольнасьцяў і самаакрэсьленьня народаў, данёсься і да земляў Беларускіх, але замест вольнасьці, прынёс ён народу Беларускаму новыя цярпеньні, новыя раны.

Зямля беларуская стала зноў арэнаў ваенных змаганьняў. Ледзьве скончылася сусьветная вайна, як прышла новая вайна, вайна польска-бальшавіцкая.

Новыя нядолі, хваробы, зьнішчэньні; новае мора крыві і сьлёз. Дратуючыя беларускую зямлю, бальшавіцкая і польская арміі пачародна аглашалі абяцанкі: бальшавікі абяцалі Незалежную Рэспубліку Беларускую,—Палякі—Вольнасць, Роўнасьць, Братэрства. А ў тым-жа часе і адны і другія рэквіравалі астатні дабытак сялян, палілі і зьнішчалі сядзібы і вёскі беларускія.

І ў тэй і ў другой арміях лілася ракой кроў ахвотнікаў, дый прымусам забраных да войска сыноў народу беларускага. Бо „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі!..".

Разбудзілі на тое, каб мы відзелі, як жывое цела беларускага народу разьдзёрта на дзьве часьці, на тое каб слупы граничныя разьдзялілі брата ад брата, сына ад бацькі. І сёньня сыны аднае зямлі, аднаго народу, гаворучыя аднэй мовай, цьвічацца ў дзьвюх варожых да сябе арміях, каб, на выпадак вайны, ўзаемна мардавацца. Гэта ёсьць трагэдыя, трагэдыя, якую мусіў-бы разумець народ, які такую-ж трагэдыю мае ў сваёй гісторыі запісанаю крывавымі літарамі.

І ад беларусаў савецкіх, і ад беларусаў польскіх жадаюць патрыятызму, ахвяраў, а ўзамен—уціск і прасьледаваньне беларускага нацыянальнага руху.

Нацыяналісты польскія і іх урады цьвердзяць, што беларусаў, пабач, саўсім няма. У кут закінулі маніфэст Маршалка Пілсудскага з 1919 году, які аглашаў самаакрэсьленьне і фэдэрацыю для народаў, насяляючых ўсходнія зямлі.

Сёньня пан Маршалак Пілсудскі, створца вось гэнага маніфэсту, мае дыктатарскую ўладу, мае яе ўжо год, але маніфэст яго ўсё ляжыць ў тым самым куце.

Уціск і прасьледаваньне церпім ад веку, але ня здушылі нас. На нашых землях відзелі мы ўсякія дзяржаўнасьці; хацелі зрабіць з нас літвіноў, маскалёў, палякоў, але мы утрымаліся як народ са сваёй мовай, звычаямі, культурай.

Праз цэлы рад вякоў розныя арміі, спусташаючы наш край, сілай забіралі яго, але ўладалі толькі зямлёй, ніколі-ж ня мелі жывучага на ёй народу. Насаджывалі на нашых землях асаднікаў, каб нас вынарадавіць, але вынарадавіліся ня мы, а асаднікі.

Сёньня народ беларускі разбудзіўся і абуджэньне гэта, хто не сьляпы,—відзіць ў складаных масова да ўлады паданьнях аб школах беларускіх і ў барацьбе з гэтымі школамі урадаў рэакцыі польскай, ў стыхійным разьвіцьці культуры беларускае, ў енку з за кратаў турэмных паслоў дый дзеячоў беларускіх.

Да рэакцыянэраў польскіх, закаптураных у людажорскім шовінізме, запярэчываючых нам права да нацыянальнае вольнасьці, дый лічачых усіх нас разам узяўшы за бальшавікоў, ня маем да гаворкі нічога. Прасьледаваньне дый уціск — гэта вось заўсядышнія вашыя знахарскія лякарствы ад усіх хваробаў.

Але ад шчырых, дый чэсных дэмакратаў польскіх, а перад усім ад дэмакратаў Віленскіх, жадаем сёньня для Беларусаў ня трусьлівага спаўчуцьця, якім пагарджаем, але яснае, сьмелае дый выразнае лініі палітычнае, якую вы, паны, нясумліўна, знойдзеце, але толькі тагды, як адкінеце проч прысланяньне сябе аблуднымі эндэцка-вітосовымі тлумачэньнямі: „дзяржаўнае канечнасьці", а кіравацца будзеце сэрцам дый шчыраосьцяй.

Да гэткага жаданьня маема права, бо мы, Беларусы, з вамі разам цярпелі няволю дый змагаліся за вольнасьць і незалежнасьць Польшчы, але Польшчы Рэспубліканскае, абапёртае на згодным спаўжыцьці і пашанаваньні вольнасьці дый самадзейнасьці усіх яе народаў.

Такое ёсьць нашае праграмовае становішча. Дык вось у саюзе з працоўнай дэмакрацыяй, сялянамі дый работнікамі цэлае Польшчы, выступаем да супольнае барацьбы з рэакцыяю, а весьці яе будзем цераз усьведамленьне дый сплачэньне сялян усіх нацыянальнасьцяў і рэлігій, замяшкаючых на землях Беларускіх ў радох Радык. Парт. Сялянск. Беларуск. Зям.

Ул. ШАКУН
пасол

---

## Ад рэдакцыі.

Да першага нумару „Сялянскага Голасу" далучаем адозву пад наз. „БРАТЫ—СЯЛЯНЕ"

Прачытай і аддай другому!

# Чаму гэта так?

Ніхто не запярэчыць таму, што мужыкоў у Польшчы ёсьць найбольш.

Аднак-жа, гэта вялікая мужыцкая маса знаходзіцца пад гнётам вызысківачоў.

І чаму гэта так дзеецца? Хто ў гэтым вінават?

Вінават і вызысківач, бо гняце, вінават так-сама і мужык, бо пазваляе, каб яго прыгняталі.

Дужыя гэтага сьвету прывыклі трактаваць мужыка так, каб мець з яго якнайбольш карысьці для сябе.

Мужыку нельга думаць іначай, а толькі так, як яму кажуць, нельга займацца палітыкаю, бо гэта ня мужыцкая справа, нельга быць занадта сьвядомымі бо гэта-ж пану зашкодзіць. І каб мужык ня выйшаў па-за рамкі, дык пільнуе яго і паліцыя, і войска і духоўныя пастыры. Гэтак было назад таму стагодзьдзі, гэтак ёсьць і цяпер. І ранейшыя і цяперашні дзяржаўныя лады імкнулі і імкнуць да таго, каб мужыцкая свабода была якнайбольш абмяжована.

У старыя даўнейшыя часы гэта ўдавалася рабіць лягчэй. Мужык быў цямнейшы, менш усьведамлены, лёгка верыў шляхце і ксяндзом ды паном, што „бяз паншчыны няма бацькаўшчыны і г. д.

Але гісторыя ідзе наперад. Мужыцкія масы, хоць і памалу, прыходзяць да усьведамленьня, перастаюць верыць сваім апякуном. Мінае час паншчыны. Мінае час самаволі цароў ды каралёў. Мы дачакаліся часаў дэмакрацыі.

Што за прыгожыя часы!

Констытуцыя!

Мужык сам сабе выбірае ўрад ад войта да міністра агулам.

Нібы гэта і вялікае здабыцьцё на карысьць мужыка. Але-ж, пакуль што, аб гэтым можна толькі хораша пісаць. А ў запраўднасьці маем іншы абразок. Маем абраз роспачы, абраз крывавых мужыцкіх сьлёз. І хто больш усьведамлены, [хто лепш ведае палітыку сваіх ворагаў, хто цалком здае сабе справу з таго, што робіцца, той пакутуе яшчэ болей.

Мільёны мужыкоў, хоць і зразумелі, што іх гнятуць, што патрэбна барацьба за лепшае заўтра, што будучына залежыць толькі ад іх, але да барацьбы гэтае не пайшлі адналітым фронтам, далі сябе разьбіць і на гэтым страцілі.

Бо вораг ёсьць спрытны. Каб не дапусьціць да аб'яднаньня мужыцкіх сілаў, каб ня даць магчымасьці стварыць вялікую мужыцкую арганізацыю, пушчаецца на ўсе спосабы. Накладаючы што раз далей ярмо на шыю мужыка, ён кажа, што гэтае ярмо лёгкае, што нашэньне гэтага ярма лічыцца за гонар, што гэта ў імя: Бога, Бацькаўшчыны, Волі, Незалежнасьці і інш. Каб лягчэй зьбаламуціць мужыка, робяць рад палітычных партыяў. Кожная партыя мае дасканальную праграму. У ёй гутарка толькі аб мужыку, бо мужыкоў ёсьць найбольш. Усё мужыку: і зямля і вада, і лясы, і школы. Нават і фашыстыя, што хочуць каралеўскіх часоў, пішуць „ўлада каралю, зямля народу (выбранаму), а лад і справядлівасьць для ўсіх".

У рэзультаце маем цэлае літаньне гэткіх партыяў і што горай, тое што пад іхнімі штандарамі ёсьць і праўдзівыя мужыкі.

Абуджаны народ вёскі шукае выхаду і ў гэтым шуканьні пападаецца ў пасткі, спрытна расстаўленыя рознымі ворагамі: эндэкамі, пястоўцамі, домбшчыкамі і іншымі ўгадоўцамі.

Пападаючы ў гэткую пастку, мужык пад штандарам варожае сабе партыі, робіцца прыладзьдзем у руках вызысківачоў.

А яны ўмеюць спрытна рабіць.

Для разьбіваньня мужыцкага руху, дзеля ўвядзеньня ў памылку, дзеля замаскаваньня фактычных ворагаў народу, яны стараюцца ўзбудзіць ненавісьць сярод пасобных народнасьцяў, падбураючы мужыка паляка на мужыка украінца, беларуса і г. д.

І мужык, ня ведаючы ў чыіх руках ён прыладзьдзем, памалу, але ўсё хутчэй і хутчэй, зацягвае вяроўку на сваёй уласнай шыі.

Далей гэтак быць ня можа. Мужык павінен задумацца над тым, куды ідзе.

Мы ўжо мелі даволі часу, каб добра прыглядзецца да ўсіх партыяў, даволі ацаніць іхнюю дзейнасьць. За выняткам пары партыяў, якія шчыра боруцца за інтарэсы працоўнага народу, соймавыя партыі ідуць на вяроўцы ў капіталістых.

Даўныя абяцанкі пайшлі ў запомненьне. Замест таго павялічаны падаткі, даданы розныя дадаткі, а гэта ўсё дзеля таго, каб палегчыць лёс заможнікаў.

Здабытыя працоўным народам, ў крывавай барацьбе, пазыцыі адна за аднэю пераходзяць у рукі варагаў.

А народ маўчыць, народ цярпіць.

Вялікі час азірнуцца навокал, разважыць сваё дзеяньні і ісьці туды, дзе ёсьць праўдзівая дарога.

Лёс наш залежыць ад нас.

Усе да працы!

Пішучы гэта на шпальтах „Сялянскага Голасу", органу маладой Радыкальнай Сялянскай Партыі, заклікаю ўсіх мужыкоў да аб'яднаньня ў радох гэтае Партыі, да стварэньня пад яе штандарам моцнае мужыцкае сілы.

**Мікалай Запомнены.**

Берасьце, 12.6.1927.

# Ўсе да вубараў ў самаурады.

Здаецца ня трэба многа гаварыць аб тым, як балючай ёсьць дзісяка на вёсцы справа перавыбараў гмінных радаў і павятовых соймікаў.

Ужо ад колькі гадоў з усіх бакоў Польшчы раздаецца агульнае жаданьне перавыбараў самаўраду гміннага.

Але найбольш балючай справа гэная выглядае ў нас, на землях беларускіх. Хто ня ведае якія маем мы тут, з пазваленьня, самаўрады, ці то гмінныя, ці павятовыя. Няма здаецца ў нас гміны, дзе рады былі бы праўдзіва выбраныя народам—сялянамі, але ёсьць рады „дабраныя“ п. Старостам. Так сама, а нат яшчэ горш ёсьць і з войтамі. Іх у большасьці ніхто ня выбіраў, а проста прыслаў у гміну войта той-жа п. Староста.

Цяпер Урад, пад націскам гэных жаданьняў са ўсей Польшчы, выдаў загад рабіць новыя выбары ў самаўрады мястовы і гмінны.

Выбары будуць усюды рабіцца паводле старога (нязьмененага) закону.

Як бачыце стаімо перад фактам новых выбараў самаўраду гміннага на нашых землях беларускіх. Чутно, што выбары будуць зроблены ў хуткім часе, але не адразу на ўсім тэрэне, толькі будуць па калейцы браны аддзельныя паветы.

Мы, Радыкальная Сялянская Партыя Беларускіх Земляў, маем вельмі крытычны пагляд да сёньняшняга устрою самаўрадовага ў Польшчы. Добра здаемо сабе справу, што сёньняшні самаўрад наш ёсьць ня што іншае, як выбарнай нібы інстытуцыяй, патрэбнай для бюрократыі урадоўцаў дзеля ухваленьня падаткаў самаўрадовых (камунальных).

Хочам відзець сапраўдны самаўрад сялянскадэмакратычны і да гэткага вось самаўраду імкнуцца будзем праз арганізацыю, праз барацьбу да перамогі.

І дзеля гэтага сёньня, калі стаім перад выбарчай акцыяй да самаўраду гміннага, мусім ўсё зрабіць, каб выбары гэтыя выйграць.

Ня маем права лёгкаважыць або рэзыгнаваць з барацьбы. Ужо цяперка мусім дабіраць людзей—кандыдатаў, будучых радных і войтаў, людзей няуступчывых, моцных ў барацьбе аб інтэрас вёскі, людзей, якія здолеюць сьмела супраціўіцца абшарнікам і іх прыяцелям, як і прыслужнікам панскім.

Да барацьбы аб сапраўдныя самаўрады сялянска-дэмакратычныя, праз выбары да самаўраду, сёньня завём Вас, браты сяляне, усіх народнасьцяў і вызнаньняў на тэрэне Беларускіх Земляў.

Ул. ШАКУН
пасол.

# Да шарэгаў!

Сяляне мусяць стварыць вялікую сялянскую арганізацыю, укаваць сілу, якая давядзе да перамогі.

Але ў імя якой ідэі мусіць яднацца вясковы народ?

Вось-жа жывучыя з уласнай працы сялянскія масы павінны знайсьці аб'яднаньне пад штандарам, на якім вырыта вялікае слова: „Праца“.

Праца-ўладар сьвету.

Арганізацыя працоўных дасьць жыцьцю новы уклад, ў якім зьнікнуць вызыск, капітал і крывавыя войны.

Збудаваньне сьвету працы займае дзісяка ўмыслы і высілкі усіх, хто імкнецца да грунтоўнае, ці іначай,—радыкальнае зьмены сёньняшняга ўстрою. Якім спосабам можна дапяць гэнае зьмены—мусяць пісаць ды гаварыць аб тым ўсе, хто ў напрамку дапанаваньня новага устрою імкнецца.

Усе радыкалы, распарушаные сёньня яшчэ па розных партыях, працуюць ды твораць.

Гэта ёсьць вялікае і запраўды труднае дзела стварэньня здаровай, шчырай ды моцнай Радыкальнай Сялянскай Арганізацыі, якая з'яднае сялянскую клясу ў адну сілу.

Але чалавек ахвярны, чалавек ідэі можа дужа зьнесьці, дужа здабыць. А гэнай здабычай вось будзе збудаваньне радыкальнае сялянскае арганізацыі, сьведамай сваей сілы і мэты.

Грунтоўны фундамэнт пад гэную арганізацыю хоча залажыць новапаўсталая Радыкальная Сялянская Партыя.

## Забойства савецкага пасла Войкава у Варшаве.

У Варшаве 7 чэрвеня, на галоўным вакзале з рукі расейскага манархісты Барыса Кавэрды забіты пасол савецкі ў Польшчы Войкаў. Забойца Кавэрда мае каля 20 гадоў, быў вучнем расейскае гімназіі ў Вільні і супрацоўнікам (фактычным рэдактарам) газэты „Беларускае Слова“, выдаванай у Вільні суполкай знанага „доктора“ Паўлюкевіча.

Акалічнасьці праступства аточаны сёньня тайнай судовага дасьледу, дзеля чаго канчальны асуд наш будзем магчы даць потым. Але ўжо сёньня стаецца ясным, што эмігрантам расейскім, з-пад знаку „Божа цара храні“ гэным „быўшым людзям“, розным быўшым гэнэралам ды афіцэрам царскім яшчэ ня выветрала з галавы „єдіная, неделімая“ з царом ды з бізуном.

Стрэл, які ўпаў на вакзале ў Варшаве, мeўся быць стрэлам Сараева з 1914 г., які стаўся пачаткам сусьветнай вайны. Стрэл ў Войкава быў стрэ-

лам, скірованым у першай чарзе—ў Польшчу, ці вярней у працоўныя масы Польшчы.

Манархісты расейскія хочуць выклікаць вайну з Савецкай Расеяй абы якой дзяржавы. Яны добра ведаюць, што сваімі сіламі ня ўдасца зваліць ім савецкай улады, дык вось і стараюцца спрабаваць зрабіць гэта крывёй працоўных сумежнай дзяржавы. Калі забойства Войкава ёсьць упляванаваным актам манархістаў, дык трэба прызнаць, што мамэнт да гэнае правакацыі выбраны вельмі добры. Разрыў дыпляматычны Англіі з Саветамі—гэта для іх надзея вайны, гэта надзея зваліць саветы ды адрастаўраваць манархію ў Расеі.

Газэты розных чарнасоценцаў расейскіх, якія распарушаны сёньня па ўсіх сталіцах Эўропы, бяз сьцясьненьня лучаць забойства Войкава з цэлым радам замахаў ўнутры Расеі.

А калі гэта так, дык вось паўстае пытаньне, як доўга яшчэ будуць карыстацца ў Польшчы з гасьцінасьці дый толеранцыі рознага гатунку баёўкі ды угрупаваньні монархістаў расейскіх? Ці ня час ужо з гэтым скончыць ды паказаць ім дзьверы Польшчы, каб ня мець болей клопату ды небясьпекі.

**Ул. Ш.**

---

Забойства пасла Войкава здарылася на галоўным вакзале, куды прыехаў Войкаў пабачыцца з былым савецкім прадстаўніком у Лёндане—Розэнгольцам, які варочаўся ў Маскву праз Варшаву па разрыве Англіі з саветамі.

Забойца Б. Кавэрда арыштованы і асуджаны, надзвычайным (даразным) судом.

Прэзыдэнт Мосьціцкі выслаў ў Маскву да Старшыні Выкаўначага Камітэту С.С.Р.Р. спагадную тэлеграму, а мін. Залескі гэткую-ж тэлеграму выслаў камісару замежных спраў.

Цела Войкава, па забальзамаваньню, адправілі спэцыяльным цягнікам ў Маскву.

У Варшаве і ў Вільні зроблена многа вобыскаў і арыштаў сарод расейскай эміграцыі. Арыштованыя звольнены.

---

# Весткі з сьвету.

## Разрыў дыплёматычных зносін Англіі і Расеяй.

У сувязі з выпадкамі ў Кітаі і рэвізіяй ў гандлёвым прадстаўніцтве Саветаў, консэрватыўны урад ангельскі разарваў дыпляматычные зносіны з Саветамі.

Газэты падаюць, што савецкі ваенны камісар Варашылаў выдаў загад па чырвонай арміі і флёту з паведамленьем аб разрыве зносінаў з Англіяй, ў якім між іншым заклікае завастрыць гатоўнасьць арміі ды флёту морскага і паветранага, дзеля абароны Радавага Саюзу. Прыняты вострыя меры да абароны партоў і граніцаў. У Кранштаце мела быць агалошана асаднае палажэньне.

### Ці можа быць вайна?

Ангельскія міністры Чэмберлэн і Бальдвін выказаліся, што ў выніку дыпляматычнага разрыву з Саветамі, зусім ня спыняецца таргоўля з С.С.Р.Р. Чэмберлэн падчыркнуў, што зрыў зносінаў, гэткім чынам, зусім ня азначае падрыхтоўкі да вайны.

Што Англія дагэтуль ня выступіла збройна проці Саветаў дык гэта яшчэ ня знача, што яна з вайны зразыгнавала. Англіі патрэбна ўцягнуць да блёку процісавецкага немцаў. Цяпер адбываюцца нарады паміж Англіяй і Немцамі ў гэтай справе. Ваенны камісар савецкі Варашылаў цьвердзіць, што вайна есьць неунікнёна і наступіць скора. У сваёй прамове да жаўнераў і маракоў Варашылаў заве увесь народ да абароны „адзінае ў сьвеце дзяржавы сялян і работнікаў“.

### Радавыя газэты аб Англіи.

Радавыя газэты перапоўнены артыкуламі ды заметкамі аб Англіі. Чарговы артыкул „Праўды“ піша аб „сусьветных жандарох“ і сусьветных шпіёнах“, называючы так англійскі ўрад. СССР. не баіцца імпэрыялістычнай Англіі дый добра спаткае кожную спробу справакаванага Англіяй нападу на яго. Урад СССР.—наймацнейшы ў сьвеце, бо за яго стаяць усе працоўныя масы СССР. і сымпатыі ўсіх уціснаных працоўных на сьвеце. Ці можа тое-ж сказаць аб сабе бандыцкі ўрад лёрдаў, урад багатыроў, фальсыфікатараў, турэмшчыкаў, катаў Індыі, Эгіпту, Паўдзённай Афрыкі, катаў кітайской рэвалюцыі і душыцеляў работніцкіх вольнасьцяў“?

---

## Балканскія справы.

Напружаныя дыпляматычныя адносіны паміж Югаславіяй (Сэрбія) і Італіяй, якія ледзьве не давялі да выбуху новае вайны на Балканах, ў астатніх часох некалькі адпружыліся.

Але гэта ня знача яшчэ, што нябясьпека вайны ўжо мінулася. Прыціхла толька на нейкі час, бо цяпер настала значная зьмена ў палітыцы эўропэйскай.

Канфлікт Італьянска-Сэрбскі сышоў сёньня на далейшы плян, дзеля таго, што высунуўся на першы плян канфлікт Ангельска-Савецкі. Па прыказу Англіі адбываецца цяпер канфэрэнцыя паміж дэлегатамі ўраду італьянскага і сэрбскага, якая мае на мэце адцягнуць на нейкі час, а то нават, за якія кольвек уступкі, зьліквідаваць ваенную небясьпеку на Балканах.

Але вось на Балканах паўстае новая небясьпека ваеннага канфлікту, тым разам паміж Югаславіяй і Альбаніяй. Здавалася ужо зусім „залагоджаны“ канфлікт паміж Югаславіяй і Альбаніяй ізноў разгарэўся і ўрэшце давёў да разрыву зносінаў паміж абыдвума краямі.

Прадстаўніцтва Югаславіі з усімі консуламі ўжо пакінула Альбанію.

Італія выразна правакуе Югаславію на ваенны канфлікт на грунце імкненьня Італіі да панаваньня над Альбаніяй. Югаславія зусім ня хоча бяз бою ўступаць Італіі свае ўплывы на гэты палітычна нявыразны ды бязладны край на Балканах.

Француськія газэты пішуць што за плячыма альбанскіх рыцыкантаў стаіць, навет не хаваючыся, італьянскі ўрад; але і далей адвага італьянскіх авантурыстаў апіраецца на тайным падтрыманьні Англіі. Дык-ж зрэшта і ўсюды на сьвеце дзе толькі заваґнены стасункі, ды зарыта пагроза вайны трэба шукаць рукі „англійскіх“ пажарных.

## Палажэньне у Кітаі.

У Кітаі ізноў войскі ген. Чанг-Кай-Шэка і ген. Фэнга (чырвоныя) моцна пабілі армію Чанг-Тсо-Ліна (белых). І каб ня прыйшла тут на падмогу белым Японія, якая так сама ратуе сваё становішча ў Кітаі і цяпер кінула свае значныя ваенныя сілы, дык трэба было-б спадзявацца хуткага ды поўнага разгрому белых.

Так ці іначай, палажэньне бальшавіцкага ураду ў Ханькоу значна палепшылася.

Паводле астатніх газэтных вестак, ген. Чанг-Кай-Шэк дайшоў да поўнага паразуменьня з Ханькоўскім урадам і злучанымі сіламі з ген. Фэнгам шпарка наступаюць на Пэкін. Армія Чанг-Тсо-Ліна адступае. У Пэкіне паўстала паніка. Некалькі дывізіяў арміі Ву-Пэй-Фу (найміт ангельскі) перайшлі да арміі чырвоных.

## Латвійска-Савецкі гаспадарчы трактат.

9 іюня падпісаны ў Маскве гаспадарчы трактат між Латвія і Саветамі. Заключаны ён на пяць гадоў і зьмяшчае ў сабе вось якія пастановы: С.С.Р.Р. абавязываецца рабіць што год ў Латвіі заказы на прадукты прамысловыя і земляробства Латвійскага на 4 міл. латаў. Так сама-ж Саветы абавязываюцца арганізаваць павялічэньне транзыту тавараў расейскіх праз тэрыторыю Латвіі. З другога боку Латвія годзіцца на абніжэньне мытных (таможанных) аплатаў на некаторыя прадукты савецкія, між інш. на абніжэньне 50 проц. ад солі, 25 проц. ад піяніцы, 20 проц. ад цукру і 10 проц. ад іншых тавараў, ўзысківаючы ўзамен за тое зьніжкі мытных аплатаў на цэлым радзе прадуктаў, вывожаных праз Латвію: зьніжка 50 проц. ад вагонаў, 25 проц. ад земляробных машын, 20 проц. ад скур і г. д.

(П.А.Т.).

## Угодкі сьмерці поэты М. Багдановіча.

25 мая быў дзень 10-х угодкаў сьмерці беларускага поэты Максіма Багдановіча. Памер ён 25 мая 1917 г. у Ялце (ў Крыме) ад сухотаў.

Паэзія М. Багдановіча—гэта запраўдны сьпеў аб красе і харастве, якія нёс ён свайму гаротнаму народу беларускаму. У гэтым было яго нае вялікае служэньне роднай мове і народу.

У Вільні, а так сама і у большых местах, дзе сабрана хоць троха беларускай інтэлігэнцыі адбыліся ўспаміны і святкаваньне угодкаў сьмерці М. Багдановіча, як аднаго з вялікіх песьняроў беларускіх.

## Ген. Врангель за працай.

Знаны гэнэрал царскі Врангель ў астатніх часох аціраецца па сталіцах эўрапэйскіх, і вядзе размовы з урадамі дзяржаў, сумежных з Расеяй Савецкай, маючы мэтай уплянаваньне будучай вайны.

Цяпер Врангель „гасьціць“ ў ураду Вэнгэрскага, дзе яго прыймаюць, як дыплёмата будучай манархіі расейскай.

## З Мінску.

У Менску звольнены з займанага становішча старшыня рады народных камісараў Адамовіч. На яго месца назначаны Галадзед, расеец.

Гэта зьмена на становішчы старшыні рады, як пішуць газэты, мае мэтай аслабіць незалежніцкія імкненьні на Савецкай Беларусі.

# У Польшчы.

## Выбух парахоуні.

5 чэрвеня, у паўдня, каля самага Кракава, у вайсковай парахоўні здарыўся страшэнны выбух у складах бяздымнага пораху і іншых матар'ялаў выбуховых. Паводле газэт—прычынай выбуху была гарачыня, ад якой загарэліся выбуховыя матар'ялы. Пабіта ды пакалечана многа народу. Сіла ўзрыву была так вялікая, што людзі думалі, быццам гэта землятрасеньне. Матарьяльныя страты аблічаюць каля 2 міл. злотых.

У аколіцах, прылягаўшых да парахоўні, аграмадныя спусташэньні, у Кракаве павыбіваны ў вокнах шыбы і ушкоджаны некаторыя будынкі.

## Ня брак дурных, а нават і ксяндзоў.

Ад нейкага часу на тэрэне ваяводзтва Віленскага і Наваградскага па дворах і вёсках пачалі разьяжджаць нейкія цёмныя лічнасьці, якія зьбіралі грошы на фашыстоўскую арганізацыю ў Польшчы (г. зн. дыктатуру капіталу і буржуазіі). Лічнасьці гэныя выдавалі на адтрыманыя грошы, паквітаваньне з загалоўкам: „Дырэкторыят Партыі Фашыстаў Польскіх“.

Улада бесьпячэнства прытрымала аднаго з тых „зборшчыкаў“ нейкага Янушкевіча, у якога знайшлі легітымацыю і квітарыюш, дзе фігуравала сума на колькі тысячаў злотых сабраных складкаў. Давалі грошы найбольш ксяндзы і абшарнікі.

Вядома, ксяндзы, як і наагул клер усіх рэлігіяў, ідзе з багачамі, а на бедных людзях працы едзе, як на сьляпым кані.

Але найцікавейшым ў гэтым ўсім, дык тое, што правадыр гэнае фашыстоўскае арганізацыі, аказваецца ёсьць вар'ятам і яго трымаюць у шпіталі.

Вось якім людзям ксяндзы даваюцца і якія прахадзімцы набіраюць „убогіх духам“ пастыраў. І ня шкодзіць.

## „Працэс 33“

У Вільні адбыўся ў пачатку мая месяца судовы працэс над 33 сялянамі беларусамі з Навагрудчыны. Пасьля 5 днёвай расправы суд выдаў вельмі суровы прыгавор, ў якім прызнаў 19 вінаватымі ў учасьці ў змове, маючай на мэце адарваць землі беларускія ад Польшчы і далучыць да Беларусі Савецкай. Ян Макоўскі засуджан на 12 гадоў катаржнае турмы, Бронісlaў Янцэвіч на 10 г., Міхал Блюшка і Уладзімер Пушкарскі на 7 гад., Язэп Клінка, Эдмунд Бруска, Бернард Нэсэн, Бронісlaў Каладзейскі, Базыль Рачынскі, Казімір Зерка, Брунон Кубязоўскі і Міхал Ісенка на 6 год., 6-м па 4 гады, 1 на $1^1/_2$ г. дому паправы. Старшынстваваў на судзе судзьдзя Аўсянка.

## Самагубства эндэка украінскага.

У Львове 23.V. папоўніў самагубства вядомы Уладз. Бачынскі, б. павадыр украінскае нацыянальнае дэмакрацыі (так зв. Ундо), падрэзаўшы сабе горла брытвай ў ваньне. Да самагубства давяла У. Бач. няўдача яго пробы навязаць польска-украінскую згоду. Стараўся ён усільна паяднаць буржуазныя элемэнты украінскія з буржуазіяй польскай.

Эндэк Бач. відзеў супольны клясавы інтэрас сваіх эндэкаў з эндэкамі польскімі і стараўся іх паяднаць, але дзеля таго, што гэную работу рабіў ён, як чутно, сваім адумам і пры гэтым няўмеючы, дык „Ундо“ патрапіла збайкатаваць Бач. ў сфэрах украінскіх, што ўвагнала яго, як адваката, ў недастаткі матар'яльныя і давяло да самагубства.

Буржуазія і шавіністы патрапяць быць бязьлітаснымі і сьцерці нат „сваіх людзей“, калі тыя выламаваюцца дый здраджаюць клясавы інтэрас.

## „Straż Narodowa“ замкнёна.

Ужо блізка два гады таму, як заложана ў Польшчы арганізацыя пад назовам „Straż Narodowa“. Што-ж гэта за арганізацыя і якія былі яе імкненьні? Вось жа буржуазія панская ступнёва, праз рад гадоў-прыгатоўваецца, каб здушыць усякія арганізацыі сялянскія і работніцкія. Прыкрываючыся барацьбою з камуністымі, вербавала яна спэцыяльныя баёўкі, якія рабілі напады на сялянскіх, альбо работніцкіх паслоў на вечах.

Але вось 21 траўня міністар ўнутраных справаў выдаў загад замкнуць па ўсёй Польшчы „таварыства“ званае „Straż Narodowa“. Зроблены уладай ў памешканьні „Straży“ ў Варшаве неспадзяваны вобыск, выявіў цікавыя рэчы: сьцьверджана што шмат сяброў гэнае баёўкі мелі аружжа без дазволу ўлады, ў памешканьні-ж хаваліся газавыя бомбы, ручныя гранаты так званыя афэнзыўныя і хімічныя для фабрыкаваньня бомбаў. Бомбы ўжываліся дзеля разьбіваньня вечаў. Пасьля вобыску арыштована многа „баявікоў“ між інш. капітана Палонскага і рэдактара „Myśli Narodowej“ Кавалеўскага.

Так буржуазія ціхачом, але моцна рыхтавалася, каб расправіцца з сялянамі і работнікамі.

Цяпер-жа ўсе газэты буржуазныя справілі гвалт з-за гэных арыштаў. Але як на нашых землях адбываюцца масавыя арышты беларускіх сялян, як арыштавалі паслоў, дык гэныя самыя газэты ня ведаюць, як радавацца і лічаць тады ўсё ў парадку.

Кій заўсёды мае два канцы.

Ш.

## Варшаўскія выбары у гарадзкую раду.

22 траўня адбыліся ў Варшаве выбары ў мястовую раду. Усіх цікавіў вынік выбараў, дзеля таго, што мелі яны быць адбіцьцём настрояў, якія сёньня пануюць ў масах. Але цераз тое, што ўлада не дазволіла выставіць сьпіску кандыдатаў камуністым, дык вось нельга мець дакладнага прадстаўленьня гэных настрояў.

Аднак-жа ў выбарах ад'значыўся упадак уплываў правых, якія ў папярэдняй радзе мелі 61 дэлегата, а цяпер атрымалі ледзьве 47. Непамерна-ж узрос уплыў крайніх левых. Як падаюць газэты, камуністы на скасаваны сьпісак атрымалі больш 70 тысяч галасоў.

19-га чэрвеня адбудуцца выбары ў раду ў Вільні. Цяпер ідзе тут перадвыбарная агітацыя.

Цікава, які тут будзе вынік?

## Усячына

### Добрыя гаспадары.

„Kurjer Porannу“ піша, што в-прэм'ер міністраў п. Бартэль і міністар унутраных справаў п. Складкоўскі энэргічна ўзяліся папраўляць элеватары, каб ссыпаць збожжа, якое мае быць закуплена і прывезена з загранiцы. Аказалася, што слаўная тэза міністра земляробства п. Незабытоўскага, што дзяржава будзе мець карысьць ад дарагоўлі хлеба, дзеля чаго збожжа трэба вывозіць з краю—збанкрутавала, але нажаль позна.

І праўда, цяпер прыдзецца, як гэта было ў 1925 годзе плаціць удвая даражэй за прывознае збожжа. Як відаць, паводле слоў „Кур'ера Поранната“, дык польскі ўрад багаты, але ня розумам. Дазволіў вывезьці хлеб з дзяржавы, каб агаладзіць сваё грамадзянства, а цяпер агледзіўся, што зроблена дрэнна, ды яшчэ аж надта шкодна.

## Абвестка.

Падаём да ведама ўсіх сялян, што ў Берасьцю паўстаў Тымчасовы Акружны Камітэт Радыкальнае Сялянскае Партыі, Сэкрэтарыят якога месьціцца пры **Беластоцкай вул. д. 35.**

Бюро Сэкрэтарыяту **удзяляе БЯСПЛЯТНА** парадаў праўных, а так сама бясплатна піша паданьні, скаргі да ўладаў адміністрацыйных. Бюро адчынена штодзень ад гадз. 9 да 4, апрача суботаў і сьвятаў.

Адказны Рэдактар **Ян Зыгмунтовіч.**

**Друкарня С. Бэкэра Вільня. Субоч 2.**



Дадатак - адозва да газэты „Сялянскі голас"

# Браты, сяляне!

Паўстала і жыве сярод сялянскіх масаў ідэя барацьбы за свае правы, барацьбы за зямлю, за ўладу, за асьвету, за палітычную волю для працоўнага народу.

Ужо цэлы рад гадоў грамадзяцца Сяляне вакол гэтае ідэі барацьбы, творачь сілу, якая, ўвесь час ўзрастаючы, давядзе да перамогі. Сьвядомая свае мэты клясавая мужыцкая сіла расла ў працягу некаторага часу пад штандарам Незалежнай Партыі Хлопскай.

І вось, тымчасам, усё заламалася. Ударыў абшарніцка-капіталістычны лагер, адступілі мужыцкія масы, надыйшло часовае замяшаньне.

Урад, у лоне якога засядаюць выдатныя прадстаўнікі рэакцыі і абшарніцтва, абвясьціў Назалежную Партую Хлопскую нелегальнаю. Той самы лёс спаткаў і Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду.

Перад усёю працоўнаю дэмакратыяй, перад сялянамі і работнікамі — польскімі, беларускімі і іншых нацыянальнасьцяў сьцьвярджаем, што Урад зрабіў акт гвалту, ламаючы прынцып палітычных перакананьняў, загарантованых Конституцыяй.

Разумеем вельмі добра, што цяперашні Урад, як улада заможнае клясы, ня мог ашчаджаць арганізоваючайся сялянскае сілы і зделя гэтага, натуральна, гэты Урад рэпрэсіямі і ўсялякімі іншымі шляхамі павінен быў імкнуцца да зьнішчэньня нявыгадных для сябе палітычных арганізацыяў.

Урад зрабіў свае.

Але што зрабілі павадыры сялянскага руху, арганізованага ў Незалежнай Партыі Хлопскай, каб ухіліцца ад прайграньня барацьбы, каб папярэдзіць разгром Незалежнай Партыі Хлопскай?

У гэтай, бяссумлiуна труднай, барацьбе, якая раз'іграваецца паміж клясаю абшарніцкаю і клясаю сялянскаю, павадыры сялянскага руху з Незалежнае Хлопскае Партыі не патрапілі выклікаць абароны масавага сялянскага руху ад паражэньня, а наадварот—увялі сялянскі рух на пазыцыю, якая найболей палягчае перамогу ворагам сялян. Толькі гэтым неадпаведным кіраваньнем клясаваю сялянскаю барацьбою тлумачыцца параўнаўча лёгкая перамога, адтрыманая рэакцыяй над Незалежнаю Партыяй Хлопскай.

Аднак-жа, ў гэтых варунках ня час шукаць вінаватых, ня час бедаваць над зробленымі памылкамі павадыроў Н.П.Х., тым больш нельга сумлявацца ў апошняй перамозе працоўнае клясы!

Замест гэтага, трэба дзейнічаць, каб не дапусьціць да поўнага разгрому сялянскага руху. Каб ухіліцца ад дасюлешніх памылак, якія палягчылі ворагам барацьбу, трэба зараз-жа парваць з мэтодамі палітычнае працы, ўжыванымі павадырамі Н. П. Х.

## Чаму мы выйшлі з Незалежнае Партыі Хлопскай?

Будучы ў Н. П. Х., мы цэлы год паказвалі на няпраўдзівы кірунак у партыі, даказваючы, што гэта прычыніцца да перамогі рэакцыі і затамуе незалежны сялянскі рух на доўгі кавалак часу. Цьвердзім, што фатальнаю памылкаю ў дасюлешняй арганізацыі Н. П. Х. было тое, што на адказныя кіраўнічыя становішчы не патраплена паклікаць чыстых, ідэйна шчырых людзей, зьвязаных з сялянскім жыцьцём. Цэнтральны Камітэт Партыі разам з іншымі дзейнікамі на версе быў апошнім часам згангрэнованы да такое ступені, што трудна было ўхіліцца ад правакацыі.

Агульна вядомыя справы Траяноўскага, а ў апошні час пасла Ваявудзкага, Вышынскага, Пілецкага і іншых нявыразных дзеячоў застануцца чорнаю плямаю на незалежным клясавым сялянскім руху.

Непадлічальную дзейнасьць цэнтральных павадыроў партыі, а таксама і розных райцаў, увесь час мы баролі; заўсёды мы трэбавалі ачышчэньня партыі ад шпікоў, правакатараў, незалежна ад таго, якімі плахтамі яны прыкрываюцца.

Сягоньня, дзякуючы гэтаму няшчыраму і фальшываму кірунку, заможная кляса амаль бяз віякае натугі загнала Н. П. Х. пад зямлю, на сьцежкі нелегальнае дзейнасьці.

Пасол Ваявудзкі разам з прыхільнікамі бессэнсоўна піхаюць сялянскія масы на гэткі нелегальны шлях. А самі, як і перад гэтым трусьліва хаваюцца за плячыма тых, хто ім сьлепа верыць, але борацца шчыра, ідэйных людзей. Пан-жа ж Ваявудзкі не выступаў а ні на адным мітынгу, ён ня мае а ніводнага паліцэйскага пратаколу, а ніводнае карна-палітычнае справы. Будучы няшчырым і трусьлівым сябром, ён спрытна схаваўся ў часе нашых крывавых баёў на Ордынацкай вуліцы ў Варшаве. Гэтая няшчырасьць п. Ваявудзкага ў палітычнай працы, злучаная з яго мінулым, пацягнула за сабою страту нашае веры да яго асобы. За ім яшчэ, па прычыне недахопу належнае ацэнкі сытуацыі, ідуць паслы Фідэркевіч і Балін, лічачы, што самі ўжо ня маюць нічога траціць. Усе яны ня лічацца а ні з сялянскімі ахвярамі а ні з немагчымасьцю перамогі ў цяперашні момэнт. А нас і тых, хто не пайшоў з імі, лічачы іхнюю тактыку згубнаю для салянскіх масаў, наперад ужо завуць трусамі, здраднікамі, а нават і паслугачамі Ураду.

На гэткія, нічым неабаснованыя, хлусьні і брахні, пахуліганску кіданыя на нас Ваявудзкім і яго прыхільнікамі—ня будзем адказваць. Кожны чэсны чалавек знайдзе сабе гэты адказ у нашых дзеяньнях з мінуласьці і ў будучыні.

Проці тых, каторыя не згаджаючыся з нашаю тактыкай, ідуць шчыра і ахвярна на нелегальную працу—ня боремся.

Але з усёй сілаю процістаўляемся няшчырасьці і баламуцтву, з якімі збанкрутаваўшыя павадыры Н. П. Х. кіруюць сялянскі рух на нелегальную дарогу. Лічым, што для гэткае дзейнасьці маем цяпер неадпаведны момэнт, што гэта дарога фальшывая, ня якой сяляне могуць згубіць усё сваё арганізацыйнае дабро, закопваючы яго ў вастрогах.

Не закідаючы ідэі, якая злучала нас у Н. П. Х., мы пакінулі гэту партыю па прычыне **фальшывай**

**тактыкі, ўнутранага партыйнага баламуцтва, няшчырых мэтодаў дзейнасьці пасла Ваявудзкага.**

Але ідэал барацьбы за лепшае сялянскае заўтра утрымліваем ува ўсёй поўнасьці, арганізуючы масы ў Радыкальную Сялянскую Партыю, на што ўжо дасіць ад даўна мы мелі выразны наказ цэлага раду гурткоў і камітэтаў Незалежнай Партыі Хлопскай.

Бяромся за цяжкую працу, таму што мусім адрабіць вялізарныя памылкі, цынічна зробленыя павадырамі партыі.

Але верым. Верым у вызваленьне сялянскіх масаў з ярма эксплёатацыі шляхам неўмалімае, але шчырае і ідэйнае барацьбы.

Будзем бароцца, не паддаючыся, за нашыя праграмныя постуляты, з якіх найважнейшымі ёсьць:

1. Уся ўлада працоўнай клясе.

Фундамэнт улады працоўнае клясы—гэта саюз сялян і роботнікаў.

2. Выўлашчэньне ўсіх абшарнікаў без заплаты.

Падзел бяз выкупу ўсяе зямлі — абшарніцкае, манастырскае, касьцельнае і царкоўнае паміж сялянамі і дворнымі парабкамі.

**Зямлю павінны мець тыя, хто на ёй уласнаручна працуе!**

Спраціўляемся вайсковаму асадніцтву, як палітычнаму гвалту, які робіцца з мэтамі вынарадаўленьня і паняволеньня сялянскіх масаў

3. Удзяржаўленьне ўсіх лясоў і запэўненьне забясьпечаньня насяленьня матар'ялам будаўляным і апалам.

4. Свабода ўсіх нацыянальнасьцяў самім пастанаўляць аб сваім лёсе.

5. Асьвета для народу зусім бясплатная ў роднай мове.

Перабудова школьнага ладу ў кірунку запэўненьня для моладзі працоўнае клясы доступу да вучэльняў усіх ступеняў.

6. Свабода слова, друку, сабраньняў; свабода думкі, рэлігіі і перакананьняў.

7. Выбіральнасьць судоў, выбіральнасьць на адміністрацыйных становішчах. Скасаваньне кары сьмерці і даразных судоў. Амнэстыя для вязьняў палітычных.

8. Адлучэньне касьцёлу (царквы) ад Дзяржавы.

9. Зьмена падатковае сыстэмы ў кірунку пераняседьня ўсіх цяжараў на заможную клясу, аж пакуль гэтая кляса ня зьнікне.

Арганізуючы сялянскую клясу для барацьбы за вышэйпаданыя постуляты, мусім у першую чаргу скіраваць усю сілу на родныя мясцовасьці. На нашых землях, скуль мы былі пакліканы на цяжкія палітычныя пастарункі, пануюць яшчэ вынятковыя законы. Прыгнечаны народ беларускі, украінскі і літоўскі павінен арганізавацца для абароны сваіх правоў, сваіх клясавых інтарэсаў. Дык вось, у цяперашні момэнт, арганізоўваем

## „Радыкальную Сялянскую Партыяю Беларускіх Зямель“.

Хочам зьяднаць усе жывыя сілы вясковага народу беларускіх зямель, сілы—якія ўвесь час разьбіваюцца шалеючым нацыянальным шовінізмам, прышчапляным партыямі грамадзкае рэакцыі і згодніцтва.

Аднак-жа разумеючы, што зьнішчэньне кайданоў гнёту безварункова вымагае супольнае натугі бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці, ня хочым закінуць і іншых мясцовасьцяў. Дык і заклікаем усіх ідэйных людзей, якія прызнаюць нашыя праграмныя постуляты, а таксама згаджаюцца і з нашаю палітычнаю лініяй, каб арганізоўвалі радыкальны сялянскі рух на польскім і украінскім абшары. Арганізованая гэтым шляхам сялянская сіла, маючы аднолькавыя праграмы для кожнага абшару, павінна зьяднацца **ў адзін магутны Сялянскі Саюз.** Да гэтага імкнёмся ўсімі сіламі, паможам братом сялянам так Украінцам, як і Палякам і ўсім іншым у стварэньні вялікае радыкальнае сялянскае арганізацыі.

Арганізуючы ў цяперашні час **Радыкальную Сялянскую Партыю Беларускіх Зямель,** заклікаем усіх сялян, якія жывуць на беларуска-украінска-палескіх абшарах, да масовага ўваходу ў рады Партыі.

Заклікаем Вас, Браты Сяляне, каб Вы тварылі моцную арганізацыю, добра яе пільнавалі, сачылі за палітычнымі крокамі людзей, высунутых Вамі на партыйныя становішча, каб ухіліцца ад правакацыі і баламуцтва, якія на кожным кроку цікуюць і нішчаць усякую арганізацыю, як зьнішчылі Н. П. Х.

Радыкальная Сялянская Партыя Беларускіх Зямель лічыць сябе прадстаўніцаю працоўнага народу Беларускіх Зямель.

Арганізованыя пад штандарам Р. С. П. Б. З. працоўныя масы павінны прымаць найдзейнейшы ўдзел у грамадзкім і самаўрадовым жыцьці.

Р. С. П. Б. З. павядзе ў саюзе з радыкальным сялянскім рухам усяе Польшчы напружаную барацьбу за школу ў роднай мове, за самаўрад, за зямлю, за ўладу.

## Хай жыве Радыкальная Сялянская Партыя Беларускіх Зямель!

Хай жыве солідарнасьць сялян усіх нацыянальнасьцяў у Польшчы!

Паслы на Сойм:

**Уладзімер ШАКУН**
**Антон ШАПЕЛЬ**
**Ад. БОН**